# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 28 (541) Год XI 10 ЛІПЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр

Нацыянальныя праблемы ў Прэзідыум ВРН

## ПРЫКЛАД ПРАВІЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ

16 чэрвеня гэтага года адбылося пасяджэнне Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку прысвечанае працы з нацыянальнымі меншасцямі ва ўсіх галінах жыцця. У пасяджэнні прынялі ўдзел віцэ-міністр Міністэрства ўнутраных спраў Зыгфрыд Шнэк, кіраўнік грамадскага аддзела МСВ Станіслаў Шумоўскі, начальнік камісіі да спраў з няпольскім навучаннем пры Міністэрстве асветы Мэланія Магдзяк-Кавальская, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП Уладзіслаў Канстанчук, куратар Беластоцкай школьнай акругі Эдуард Крынскі, намеснік кіраўніка аддзела культуры ВРН Эдуард Бакун, кіраўнік аддзела унутраных спраў ВРН Антоні Рошка і Мікалай Куц, прадстаўнікі нацыянальных таварыстваў.

Звыш 30-старонкавая інфармацыя аб прапорцыях эканамічнага і культурнага развіцця паміж нацыянальна-меншаснымі асяроддзямі і апошняй часткай Беластоцкага ваяводства, а таксама аб патрэбах гэтых асяроддзяў выклікалі ажыўленую дыскусію. Інфармацыю дапоўнілі прадстаўнікі нацыянальных таварystваў Ул. Юзвюк, Я. Петрашкевіч і С. Кантралевіч.

У дыскусіі голас забірала 12 асоб.

Куратар Э. Крынскі гаварыў аб цяжкасцях павелічэння інвестыцыі — пабудовы школ і інтэрнатаў без дапамогі насельніцтва, а таксама складанасці навучання беларускай мовы ў Беластоку. «Калі б бацькі гэтага хацелі, ахвотна гэта зробім», — сказаў ён.

Прадстаўнік Мін. асветы М. Кавальская гаварыла аб праблемах падрыхтоўкі падручнікаў да навучання мовы ў школах паасобных нацыянальных меншасцей. Адказ на заўвагі ў галіне развіцця культуры даў Э. Бакун. Даволі ажыўленую паленіку выклікала праблема ліквідацыі цераспалосіцы ў беларускіх асяроддзях і скамасавання зямлі. Як вядома зараз у паасобных паветах ад 30 да 50% вёсак захоўвае цераспалосіцы і трохпольную сістэму апрацоўкі зямлі, што ўстрымлівае ўсялякі прагрэс у галіне ўвядзення сучаснай агракультуры. Кіраўнік камісіі планавання ВРН З. Бэрнэр сказаў, што дагэтуль не вялі гаспадарчай нацыянальна-меншаснай палітыкі, глядзелі на рэнтоўнасць мерапрыемстваў з пункту гледжання актывізацыі цэлага ваяводства і зараз нельга ставіць задання зліквідавання ў паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны цераспалосіцы на працягу адной бягучай пяцігодкі.

Кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП Ул. Канстанчук гаварыў, што партыйныя ўлады ваяводства вядуць у адносінах да нацыянальных меншасцей правільную палітыку. Акрэсліў свае адносіны да некаторых раздзелаў інфармацыі ВРН і выказванняў прадстаўнікоў нацыянальных таварystваў. Член Прэзідыума ВРН Ян Чапля паведаміў, што дагэтуль прэзідыум не займаўся справамі нацыянальных мен-

(Працяг на стар. 5)



## АХВЯРАМ ЗЛАЧЫНСТВА

У Райску ля помніка брацкай магілы адбыўся вялікі мітынг. Сюды прыехалі многія дэлегацыі паасобных ГРН, школ, прадпрыемстваў, моладзі. Сярод прысутных многа людзей з іншых паветаў і ваяводстваў. Прыязджаюць сюды, каб пакласці на магілу скромныя кветкі памяці, каб яшчэ раз упрытомніць жудасны дзень 16 чэрвеня 1942 года, дым і попел Райска, паглядзець на далінку, дзе загінула 149 жыхараў вёскі.

**На здымку: Ганаровую варту ля помніка памардаваных трымаюць гарцэры мясцовай школы.**

тэкст і фота (ак)

**РАМАН ТАРМОЛА**

— ■ —

**Як дыхаецца лёгка ў родным лесе!**
**І ў сне**
**не закрываю нават рот...**
**Папасвішся на пашы яго з месяц —**
**Здаровым будзеш круглы год.**
**Калі ж ахвота ёсць яшчэ да шчаўя**
**З смятанаю**
**і свежым агуркам,**
**Ды ягад і маліны з чаем —**
**Прыбаў сабе яшчэ гадоў...**
**Паветра распірае ажно грудзі**
**І ты — нібыта яблык наліўны.**
**Як лес,**
**такога доктара не будзе:**
**Ён лечыць без пілюляў,**
**без маны.**
**Гэй, рэха, падхапі людзей падзяку:**
**Вялікі дзяку-у-й,**
**Ле-е-ес.**



Від з падалянскага панадворка.

(Да «Крыштанім В» стар. 3)

## ЧЫМ ЖЫВЕ ЛЯНЕВА

Вёска Лянева абсалютна не «забітая дошкамі», як гэта некаторыя думаюць. Наадварот, шаша, якая праходзіць побач, спалучае вёску з Гайнаўкай і Нарвай, а пасрэдна і з Беластокам. Шашою ездзіць аўтобус ПКС. Праўдападобна за год або два Лянева будзе мець непасрэднае аўтобуснае спалучэнне з Бельскам. Аб вёсцы можна сказаць і тое, што нават архітэктурна нейк разумней распалажана, чым «слаўныя», расцягнутыя Кленікі ці Чыжы. А ўсё ж такі, як гавораць тутэйшыя жыхары, мала хто іх наведвае «з павета, ваяводства». Хіба, між іншым, таму так прыемнымі былі мае сустрэчы з прадстаўнікамі вёскі.

**СІМПАТЫЮ...**

...да жыхараў Лянева пачуў я ўжо ў часе першай размовы з дарожным дазорцам — Аляксандрам Мышка.

— У рэалізацыі чынаў, перад усім дарожных, Лянева перадавое, гэта найлепшая вёска, — сказаў мой размоўца. Напрыклад, у гэтым годзе будуецца брукаваная вуліца выключна дзякуючы самім жыхарам, таму што ў інвестыцыйны план яна не была ўнята. Пабудова гэтай вуліцы (326 м даўжыні і 6 м шырыні) паводле каштарыса выносіць 200 тыс. зл. Дзяржава дала толькі 50 тыс. зл., апошняя праца — гэта чын. На дарогу, побач вёскі, навазілі 500 кубічных метраў пяску — 20 тыс. зл. і многа іншых. У гэтым годзе на вуліцах Лянева (іх ёсць некалькі) засвяціліся электрычныя лямпачкі. Кошты за гэта пакрылі самі жыхары ў 60%.

**ШКОЛА**

Лянеўская школа ўключаецца ва ўсе працы асяроддзя. З многімі ініцыятывамі выступае тут кіраўнік школы **Юры Койла**, які ведае не толькі патрэбы вёскі, але яе амбіцыі і магчымасці. Настаўніца **Ліда Манаховіч** развучвала з моладдзю (узрослаю) п'есу «Гарадскія госці» і нават усё добра ішло, толькі хлопцы «збунтаваліся». Пра школу дбае не толькі бацькоўскі камітэт, але і сельгасгурток. Прызнаў ён на агароджу школы 5 100 зл., а таксама абяспечвае школу ў бясплатны транспарт на давоз матэрыялаў. ГРН у Чыжах купіць 140 м. сеткі. Пры школе плануюць дабудаваць два новыя памяшканні. У перспектывічных планах снуецца думка аб пабудове купальнага басейна ў Ляневе, і іншыя.

**НА СХОДЗЕ**

Калі надышоў час на развітанне, прысутныя мяне затрымоўвалі:

— Нам не спяшаецца да хаты, мы рады з вамі пагаварыць аб нашых справах, таму што рэдка госці да нас прыязджаюць. Мінаюць. Лічаць нас забітаю вёскаю, — згодна гаварылі прысутныя.

Сапраўды, вёска адчувае нейкую маральную «дыскрымінацыю», хаця ніхто яе не дыскрымінуе, толькі мінае. Да Лянева не прыязджае аб'язное кіно, таму што вёска падлягае пад паўсталае кіно Чыжы, а з Чыжоў проста не хочуць прыязджаць. Дык што тут гаварыць: не завітала сюды кіно БГКТ ні Лявоніха. А людзі прасілі нашай дапамогі ў гэтай справе. Што маюць свае амбіцыі, хай сведчыць і тое, што хочуць увясці ў вёсцы на слупе гучнагаварыцель за свае грошы. Улады пераконваюць, што гэта не будзе даваць спаць і т. д., а яны стаяць пры сваім: «А мы хочам, каб на вуліцы гаварыла радыё, каб нашыя жанчыны, сабраўшыся палоць на агародах, маглі слухаць перадачы». Дык чаму ў такім выпадку перашкаджаць ім?

Асобнаю справай з'яўляецца разваленыі дзіравы масток на дарозе Лянева — Лушчы. Развaліла яго меліярацыйнае прадпрыемства ў Бельску, калі праводзіла свае работы (ужо паўтара года). Паставілі адпаведны дарожны знак, але людзям трэба ездзіць, і мучыцца яны дагэтуль. Самі наладзіць не могуць, бо немагчыма таго зрабіць без планаў і матэрыялаў. А ў павеце ўсё вырашаецца, хто мае наладзіць масток: ГРН ці меліярацыйнае прадпрыемства. Панове, ці не сорамна?

— ■ —

Зразумела, гэта далёка не ўсё, чым жыве Лянева. Паказаны толькі некаторыя моманты. Перад усім справы калектыўнай, згоднай, грамадскай працы. Намеры вёскі амбітныя, хаця часамі наіўныя. У заключэнні хачу дадаць: многае, што робіцца, залежыць ад амбітнага і ініцыятыўнага солтыса і аднaчасова дыспазітара сельгасгуртка *Мікалая Лапінскага.*

*А. Карпюк*

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ГІСТАРЫЧНЫ ВІЗІТ

Гістарычны візіт прэзідэнта дэ Голя ў СССР закончыўся. Але водгукі аб гэтай паездцы не ўціхаюць па усім свеце. Паездка ацэньваецца як найважнейшае дыпламатычнае здарэнне пасляваеннага дваццацігоддзя. Мае яна сваё значэнне і таму, што незадоўга дэ Голь наведае Бон.

Прэса зварачвае ўвагу на тое, што дэ Голь прыбыў у Маскву ў генеральскім мундзіры і што выступае ён у ім толькі ў час вялікіх урачыстасцей. Каментатары падкрэсліваюць, што гэты факт з'яўляецца намёкам да французска-савецкага братэрства зброі. Побыт дэ Голя ў СССР прыпаў на час 25 гадавіны гітлераўскага нападу на СССР. Для прыпамнення дадайма, што калі ў студзені 1942 года савецкія вайскі адбілі нямецкае наступленне на Маскву, дэ Голь у прамове па радыё заявіў: «З'яўленне Расіі ў першых радах заўтрашніх перамог нясе Еўропе і свету гарантыю раўнавагі».

У Парыжы адбылося надзвычайнае пасяджэнне Рады Міністраў, на якім міністр Кув дэ Мюрвіль здаў справаздачу аб паездцы прэзідэнта ў СССР, а генерал дэ Голь ацаніў вынікі гэтага візіта. «Справа ў тым, — гаварыў генерал дэ Голь, — каб наш стары кантынент быў спалучаны». Гэты сказ як найбольш аддае мэту паездкі і ўвогуле сучаснай замежнай палітыкі Францыі. Францыя і Савецкі Саюз будуць праводзіць між сабой рэгулярныя кансультацыі па цікавячых абедзве краіны справах. Гэтаму будзе служыць між іншым беспасрэдная тэлефонная лінія Масква — Парыж. Спалучэнне будзе называцца «белай лініяй».

Трэба адзначыць, што Францыя бесцырымонна рэалізуе сваю палітыку ў адносінах да НАТО. Яна пачала выводзіць свае вайска з-пад камандвання спалучаных сіл НАТО. 1 ліпеня Генеральны штаб НАТО пакінула 60 французскіх афіцэраў і 70 іншых працаўнікоў.

Што датычыць адносін Францыі да в'етнамскай вайны і значэння візіта ў СССР, трэба адзначыць, што чым амерыканцы больш заглыбляюцца ў гэтую брудную вайну, тым візіт дэ Голя стаецца важнейшым.

### РАЗБОЙНІЦКІЯ АКТЫ

Увесь свет абураецца бясправўнымі актамі амерыканскіх агрэсараў у В'етнаме. Бамбардзіроўка Ханоя і парта Хайфон выклікала незадавальненне нават сярод самых блізкіх прыхільнікаў амерыканскай палітыкі. Прэм'ер Вільсан мусіў прызнаць, што з гэтым фактам не мае нічога супольнага. 120 англійскіх дэпутатаў жадае поўнай рэвізіі палітыкі Англіі ў адносінах да ЗША. Свой непакой выказалі такмаса многія іншыя парламенты і ўрады. Хваля абурэння супраць ЗША пераходзіць праз усе краіны свету.

(А. К.)

## БССР

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Разглядаліся задачы беларускай партыі па далейшаму развіццю меліярацыі зямель. У дыскусіі, м. ін., выступілі першыя сакратары абкомаў партыі: Ул. Мікуліч з Брэста і Ул. Міцкевіч з Гродна, а таксама І. Біч — першы сакратар Пінскага райкома партыі.

### БЮДЖЭТ

Дзяржаўны бюджэт Беларускай ССР за 1965 год выкананы поўнасцю. Тым не менш, Вярхоўны Савет Беларусі сцвердзіў:

«У 1965 годзе павялічыўся ў параўнанні да 1964 года лік прадпрыемстваў, не выканаўшых устаноўленых ім планаў прамысловай прадукцыі, росту прадукцыйнасці працы, змяншэння сабекошту прадукцыі. Больш як палавіна ўсіх падрадных арганізацый рэспублікі не выканала план будаўнічых работ».

### ЗАКОНЫ

Адзін з нядаўна ўхваленых законаў Беларускай ССР датычыць узмацнення барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадска-карыснай працы і вядуць гультайскае жыццё.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

Па запрашэнню Адзінай дэмакратычнай арганізацыі моладзі (ЭТОН) вылецела дэлегацыя савецкага камсамола на чале з кіраўніком беларускага камсамола Г. Жабіцкім. Дэлегацыя прыме ўдзел у IV кангрэсе ЭТОН.

### РЭАКТАРЫ

Беларусь мае ўжо два атамныя рэактары. Другі рэактар збудавана ў мінулым годзе. Пры Беларускай Акадэміі навук існуе Інстытут ядзернай энергетыкі.

### ПЛАТА

У Мінску адбылася навукова-эканамічная канферэнцыя з удзелам вядучых беларускіх палітыкаў, вучоных і дзеячаў. Канферэнцыя была прысвечана праблемам эфектыўнага выкарыстання матэрыяльных стымулаў у павелічэнні вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. М. ін. гаварылася аб надта знамянальных падліках, што за апошнія 15 год даходы калгасаў узраслі амаль у пятнаццаць разоў, але ўзровень аплаты працы за мінулую сямігодку павялічыўся толькі ў няцэлыя тры разы.

### ГЕРОІ

У Беларускім Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны сабрана цікавыя дакументы аб 362 Героях Савецкага Саюза, якія паходзяць з Беларусі. Цікава тое, што амаль палавіна іх — гэта лётчыкі.

### ТРЫЦЦАЦІГОДДЗЕ

Ужо трыццаць тры гады існуе Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Створаны ён у 1933 годзе. Плануецца, што да 1970 года лічба студэнтаў інстытута павялічыцца да 8 850 асоб. Будзе 180 новых выкладчыкаў інстытута.

На завочным аддзяленні і вечаровым аддзяленні інстытута вучыцца сотні кіраўнікоў фірмаў, інжынераў, тэхнікаў, якія павышаюць свае кваліфікацыі ў эканамічных навуках. Інстытут належыць да ліку найбольшых у цэлым Савецкім Саюзе.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПАРАГРАФЫ СУПРАЦЬ ХУЛІГАНАЎ

Найвышэйшы суд ПНР ухваліў указанні огранам справядлівасці ў справе хуліганскіх злачынстваў. Указанні з'яўляюцца адказам на прапанову Генеральнага пракурора, складзеную яшчэ ў мінулым годзе. Указанні гэтыя ўдакладніваюць, якое злачынства трэба лічыць хуліганскім, і ўстанаўліваць у адносінах да яго завостраную судовую і следчую працэдуру.

### ПРЫ ВЫЕЗДЗЕ ЗА МЯЖУ

Нарадовы банк польскі абвясціў новыя фінансавыя распараджэнні пры выездзе за мяжу. Згодна з гэтымі распараджэннямі нельга за мяжу вывозіць банкнотаў 500 зл. і 1000 зл. Можна тым часам мець банкноты ніжэйшай вартасці, а таксама ашчадныя кніжкі. У сацыялістычных краінах (апрача Чэхаславакіі) можна вымяніць 150 злотых на грошы краіны, у якой знаходзімся.

### СУПРАЦЬ ЗВЕРСКІХ ПАЧЫНАННЯЎ ІМПЕРЫЯЛІСТАЎ

Бамбардзіроўка амерыканцамі в'етнамскіх гарадоў — Ханоі і Хайфонгу выклікала ва ўсёй краіне хвалю глыбокага абурэння і пратэсту. У многіх прамысловых прадпрыемствах адбыліся масавыя мітынгі, на якіх прысутныя сурова асудзілі палітыку амерыканскага імперыялізму. На мітынгах прынята адпаведныя рэзалюцыі, а таксама зацверджана тэксты лістаў высланых у пасольствы Дэмакратычнай рэспублікі В'етнама і Злучаных Штатаў Амерыкі.

30 чэрвеня адбылася ў Варшаве перад гмахам амерыканскага пасольства бурлівая дэманстрацыя, у час якой шматтысячны натоўп жыхараў Варшавы ў вострай форме пратэставаў супраць бамбардзіроўкі амерыканскімі самалётамі мірных в'етнамскіх гарадоў.

### ДЖОН ГАЛІДЭЙ ПАД ПАРАГРАФАМ

Папулярны, асабліва сярод моладзі, французскі спявак Джон Галідэй, якога прыезд у Польшчу голасна прапагаваў наш друк, стаў 25 чэрвеня перад Павятовым судом у Кракаве, адказваючы за хуліганскія авантуры ў атэлі «Краковя». Кракаўскі павятовы суд засудзіў вядомага спевака на 20 000 злотых кары з эвентуальнай заменай на арышт. (п)

### ПАМЁР ЯН БЖЭХВА

2-га ліпеня памёр у Варшаве Ян Бжэхва — вядомы паэт, сатырык, перакладчык, аўтар многіх кніжак для дзяцей. У мінулым годзе адзначаў ён 50-годдзе пісьменніцкай працы. Выданых было больш 60-ці кніжак, якія мелі 140 выданняў.

Ян Бжэхва нарадзіўся 15 жніўня 1900 года ў Жмэрынцы. У сярэднюю школу хадзіў у Кіеве, а пасля ў Пецярбургу. Вучобу ва універсітэце распачаў у Казані, а закончыў яе на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта.

Да найбольш папулярных яго твораў належаць: „Akademia pana Kleksa", „ZOO", „Tańcowała igła z nitką", „Kaczka Dziwaczka", а таксама творы „Brzechwa dzieciom". (мх)

## ВАЯВОДСТВА

### ПРАБЛЕМА: ІНВЕСТЫЦЫІ

29 чэрвеня адбылося пасяджэнне Ваяводскага камітэта ПАРП. Тэмай пасяджэння была інвестыцыйная дзейнасць у нашым ваяводстве, а таксама праца будаўляна-мантажных прадпрыемстваў. У абрадах прынялі, між іншым, удзел: віцэ-міністр будаўніцтва і будаўляных матэрыялаў, Рышард Герляхоўскі і прадстаўнік аддзела лёгкай прамысловасці — Уладзіслаў Цыбала. З дакладам выступіў сакратар Ваяводскага камітэта па эканамічных справах, Сяргей Рубчэўскі. Так даклад, як і дыскусія паказалі на многа рэзерваў, выкарыстанне якіх можа палепшыць рэалізацыю інвестыцый як у горадзе, так і на вёсцы.

### СТОНКА

Служба аховы раслін нашага ваяводства падае, што ў паветах: Гайнаўка, Сямяцічы, Высокамазавецк, Замбраў, Кольна і Лапы масава паявілася бульбяная стонка. У хуткім часе можа яна зрабіць вялікія страты на бульбяных палях. Гаспадароў, на палях якіх паявілася стонка, заклікаецца да як найхутчэйшага стасавання хімікатаў: азотакс, трытакс, мшыколь. Апаратуру да апрысківання маюць сельскагаспадарчыя гурткі і ГС-ы.

### 60 НОВЫХ ЛЕКАРАЎ

60 абітурыентаў Беластоцкай Медыцынскай акадэміі атрымала дыпломы лекараў. Урачыстасць уручэння дыпломаў адбылася 30 чэрвеня ў будынку акадэміі. Дагэтуль Беластоцкую акадэмію закончыла ўжо 1763 лекары. У гэтым годзе ўручана 104 дыпломы заканчэння акадэміі.

### МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ КААПЕРАТЫВАЎ

1 ліпеня Беласточчына адзначыла міжнародны дзень кааператываў (спудзельчосці). У гэтым дню адбылася сустрэча сакратарыяту Ваяводскага камітэта ПАРП і Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай з прадстаўнікамі кіраўніцтва кааператыўных арганізацый. Падобныя сустрэчы адбыліся і ў паасобных паветах. 4 ліпеня з аказіі Дня кааператываў адбылася ў тэатры імя Ал. Вянгеркі ўрачыстая акадэмія.

### І МЕСЦА Ў КРАІНЕ

І месца ў краіне ў спаборніцтве паміж прадпрыемствамі заняла Беластоцкая рыбная цэнтраля.

Цэнтраля мае ў ваяводстве 16 пунктаў продажы. Іх абарот у 1965 годзе раўняўся 23 315 000 злотых і быў большы ад 1964 года на 8,8 працэнта.

### НАБОР У БЕЛАСТОЦКУЮ МЕДЫЦЫНСКУЮ АКАДЭМІЮ

2 ліпеня пачаліся ўступныя экзамены на Беластоцкую Медыцынскую акадэмію. На 200 месц стараецца ўступіць на акадэмію 539 кандыдатаў, у тым каля 400 жанчын. (п)

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 10. VII.**

9.25 Program dnia; 9.40 „W świecie sztuki" — reportaż (Kijów); 10.00 Przerwa; 11.00 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa z Theo Dollem" (Berlin); 12.00 Przerwa; 12.20 Program dnia; 12.25 „W starym kinie"; 13.30 „Koncert sportu" (Rostock); 14.30 PKF; 14.45 „Zielone perspektywy" — Tygodnik Wiejski; 15.10 Teatrzyk dla Przedszkolaków: A. Chodorowska — „Podróż z przygodami"; 15.40 „Piórkiem i węglem"; 16.00 „Mały Teatr Rozrywki" — „Cztery humoreski Marka Twaina; 16.30 „Stare życiorysy" — gawęda historyczna A. Małachowskiego; 16.50 „Nikt mnie nie zna" A. Fredro; 17.35 „Wielka gra" — teleturniej; 18.35 Transmisja ze Św. Krzyża — reportaż; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Słownik Wyrazów Obcych"; 20.15 „Powrót do Texasu" — film fab. USA; 21.30 „Śpiewa....." (Szczecin); 21.50 Niedziela sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 11. VII.**

17.20 Program dnia; 17.25 „Na półkach księgarskich"; 17.35 Dla dzieci: „Poły i tajemnica siedmiu gwiazd" — film; 17.40 Wiadomości dziennika; 17.50 „Bryza"; 18.20 „Gorąca linia"; 19.00 „Mistrzostwa Świata w piłce nożnej". Sprawozdanie z meczu Anglia — Urugwaj; w przerwie ok. 19.45 Dziennik TV; 21.15 III TV FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH. „Warszawianka" St. Wyspiańskiego; ok. 22.15 Dziennik TV.

**WTOREK, 12. VII.**

10.00 „40 minut przed świtem" — film fab. rodz.; 11.15 Przerwa; 17. 25 Program dnia; 17.30 Wiadomości dziennika; 17.35 „Trzech dzielnych piratów" — film; 17.50 Reklamowy bar „Pod kaczuszką"; 18.00 Program rozrywkowy; 18.30 „W Staszówie" — rep.; 19.10 „Dobranoc"; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Bułgaria — Brazylia; 21.15 Dziennik TV; 21.30 „40 minut przed świtem" — film fab. radz.

**ŚRODA, 13. VII.**

10.00 „Dr Kildare" — film; 10.50 Przerwa; 17.25 Program dnia; 17.30 „Z drugiej strony szklanego ekranu" — skrzynka ZURT-u; 17.45 Wiadomości dziennika; 17.50 Dla młodych widzów: „Popołudnie na lotnisku"; 18.15 „Marianna i Gavroche" (Piosenki francuskie) — program w rocznicę zburzenia Bastylii; 18.40 Wszechnica TV; 19.10 „Dobranoc"; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Węgry — Portugalia; w przerwie ok. 21.15 Dziennik TV; 21.30 „Dr Kildare" — film; 22.20 „Z kart historii"; 22.40 PKF.

**CZWARTEK, 14. VII.**

17.45 Program dnia; 17.50 Wiadomości dziennika TV; 17.55 „Paryż, 14 lipca" — film („Dzień pokoju"); 18.20 „Przegląd muzyczny"; 18.50 „Czwarta zmiana"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Na co liczą Kielce" — rep.; 20.35 Teatr „Kobra": „Pocztówka z Buenos Aires" cz. III — „Ostatnia szansa"; 21.45 „Bez apelacji" cz. I; 22.35 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 15. VII.**

17.05 Program dnia; 17.10 Wiadomości dziennika TV; 17.15 „Poligon" — tv przegląd wydarzeń wojskowych; 17.45 „Perła pustyni" — film; 18.10 Wszechnica TV: „Jak to się zaczęło"; 18.40 „Żniwa w Stawczynie" — rep.; 19.10 Dobranoc; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Brazylia — Węgry; w przerwie ok. 20.15 Dziennik TV; 21.30 „Wozzeck" — film fab. NRD.

**SOBOTA, 16. VII.**

10.00 Film fab.; 11.30 Przerwa; 14.45 Program dnia; 14.50 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Włochy — ZSRR; 17.00 Wiadomości dziennika TV; 17.05 Program tygodnia; 17.20 Dla młodych widzów: „Liga Entuzjastów Wakacji"; 17.50 „Gawędy wilków morskich"; 13.05 „Po szóstej"; 18.50 „Od duetu do kwartetu" — film. program włoskich piosenek; 19.10 Dobranoc; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Sprawozdanie z meczu Meksyk — Anglia; 21.15 Monitor; 21.45 „Igrce w gród walą" — inscenizacja sztuki Adama Polewki; 23.35 Wiadomości sportowe; 23.40 Program filmowy.



Падаляны здалёк.



Падалянскія буслы.

# ПАДАЛЯНЫ

Наша акцыя КРЫПТАНІМ „В"

## ПАДАЛЯНЫ

Падаляны — гэта невялікая вёска, распалажаная ў адлегласці каля паўтара кіламетра ад Белавежы. Гэта амаль частка Белавежы. Яе жыццё і яе гісторыя цесна звязаны з жыццём і гісторыяй Белавежы, а перад усім з жыццём і гісторыяй Белавежскай пушчы, якая пачынаецца на падалянскіх загуменнях.

## ПАДАЛЯНСКІЯ ГАСПАДАРКІ

Падалянскія гаспадаркі невялікія — найбольшыя з іх па 7 гектараў, сярэднія маюць па 4—5 гектараў зямлі. Бацькам сучасных падалянцаў жылося на такіх гаспадарках скупа і бедна. Зараз аднак сяляне Падалянаў з прычыны недахопу зямлі не наракаюць. Невялікая колькасць зямлі дазваляе ім працаваць на розных дзяржаўных работах: у лесе, на чыгунцы, на прамысловых прадпрыемствах Гайнаўкі, у розных установах і прадпрыемствах Белавежы і Гайнаўкі.

## «ЧЫНЫ»

Падалянцы паказалі ўжо неадноўчы, што ўмеюць зграна працаваць для супольнай карысці. Пабудавалі яны менавіта ў апошнія гады грамадскім чынам жвіроўку да чыгуначнай станцыі, пажарніцкі басейн, а таксама дапамагалі ў пабудове мясцовай крамы ГС.

Падалянскія гаспадары не ляніліся папрацаваць грамадска, каб толькі ў іх вёсцы паўстала прыгожая выгодная крама. Зараз аднак маюць яны жаль да Белавежскай гміннай спулдзельні, што не выканчыла належна падалянскай крамы. Ужо некалькі гадоў крама не абгароджана, няма кругом ніякай прыбіральні, а ўнутры праз страху ў дажджавыя дні працякае вада.



Падаляны зблізка.



Над падалянскімі хатамі — тэлевізійныя антэны. Адна на Беласток, другая — на Брэст.

## ЦЕРАСПАЛОСІЦА

Усялякаму далейшаму прагрэсу ў гаспадараванні перашкаджае падалянцам цераспалосіца вясковых палёў. Нельга тут прымяніць аніякіх палявых машын — ні жняяркі, ні сеўніка, ні сучаснай навуковай агратэхнікі. Сяляне ў Падалянах разумеюць гэта добра і стараюцца, як могуць, справіцца з бядою. Калі 2 гады таму назад былы солтыс Мікалай Хілецкі хадзіў збіраць подпісы пад заяваю на патрабаванне камасацыі — падпісалі яе ўсе, апрача 3 асоб. Потым, з гэтых 3 гаспадароў, двух пераканалася ў неабходнасці ліквідацыі цераспалосіцы. Застаўся непераконаны адзін, нейкі падалянскі старэча, дзівак.

— Мне і так добра, — тлумачыць суседзям, — я стары ўжо, незадоўга памру і без камасацыі.

Як не дзіўна, але дзеля гэтага аднаго старэчы камасацыя ў Падалянах не будзе праведзена. Сяляне надалей пішуць заявы, ездзяць у сельскагаспадарчыя аддзелы радаў нарадовых, у розныя камітэты і г. д.

— Няма поўнай згоды ўсіх сялян, — адказваюць ім.

Ці не за вялікі, аднак, у нас лібералізм і «пашана» да розных фантазій розных дзівакоў у так важнай для жыцця вёскі і дзяржаўнай гаспадаркі справе, як ліквідацыя цераспалосіцы сялянскіх грунтаў?

## РАЗМОВА З ПАДАЛЯНСКІМ СОЛТЫСАМ

Солтысам у Падалянах з'яўляецца Аляксандр Вашкевіч, мужчына яшчэ не стары. Калі я паявіўся ў Падалянах, солтыс быў вельмі заняты: вазіў сена ў гумно. Калі солтыс заехаў на панадворак з поўным возам, я ўзяў вілы, каб дапамагчы солтысу ў яго цяжкай працы.

— Даўно ўжо хіба не працавалі з віламі? — запытаў мяне солтыс.

— Даўно, — адказаў я, — год часу.

— О, гэта ж не даўно, — сказаў солтыс. — Я не працаваў на гаспадарцы дзевяць гадоў, а потым вярнуўся і працую. У родную вёску вярнуцца захацелася.

З далейшай размовы я даведаўся, што Аляксандр Вашкевіч у 1948—1957 гадах працаваў у Варшаве, што ад 1957 г. ён гаспадарыць у Падалянах і што працу на гаспадарцы лічыць у адных адносінах лепшай, у іншых горшай ад працы ў горадзе. Вяртанні з горада ў вёску рэдкія, але ўсё ж такі, аказваецца, здараюцца.

## ЦАР МІКАЛАЙ

Цара Мікалая, які прыязджаў у Белавежу на паляванне, памятаюць усе старыя жыхары Падалян і ахвотна любяць аб гэтым расказваць.

— Я тады быў яшчэ школьнікам, — успамінае Юрый Бакаңач, — нас заўсёды выводзілі на рампу сустракаць цара. Аднойчы цар прышоў у школу і падараваў кожнаму з вучняў аловак, сшытак, пяро і пачку шакалада.

— Бачыў неадноўчы, — расказвае 89-гадовы Кастусь Вашкевіч, — як цар хадзіў па Белавежы са сваёй паслугай. Помню, што паслуга гэтая была апранута значна прыгажэй, чымсьці сам цар.

**Ул. Паўлючук**
Фота аўтара



У летні будні дзень на падалянскай вуліцы пуста і глуха.

 



**Хор пад кіраўніцтвам Барыса Мулярчыка спяваў рускія і беларускія песні.**



**На ўрачыстасць прышлі нават пажылыя шаноўныя варшавянкі.**



**Праграму вёў Аляксандр Каліноўскі, як заўсёды з гумарам і майстэрствам.**



**Папулярная «Бульба» ў выкананні спевака Вялікага тэатра Аляксандра Жэланьца.**

# ВАРШАЎСКАЕ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

12 чэрвеня г. г. адбылася ў Варшаве ўрачыстасць 10-годдзя Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства. 10 гадоў таму назад, у маі 1956 года заснаваўся Варшаўскі аддзел БГКТ, які згуртаваў пражываючых у Варшаве беларусаў, у прыватнасці інтэлігенцыю і студэнтаў. Неўзабаве пасля гэтага разгарнуўся ў Варшаве плённы культурна-мастацкі і літаратурны рух, які ўзбагаціў беларускую культуру ў Польшчы шматлікімі дасягненнямі.

Урачыстасць 10-годдзя адбылася ў Гарнізонным доме жаўнера. Нягледзячы на прыгожае надвор'е, вялікая зала Дома жаўнера запоўнілася да апошняга месца членамі і сімпатыкамі БГКТ. Прыбылі пажылыя ўжо шаноўныя варшавянкі і варшавякі і вясёлая варшаўская моладзь. Прыбылі таксама прадстаўнікі Дзельніцовай рады нарадовай, працаўнікі аддзелаў культуры і ўнутраных спраў.

Урачыстасць распачаў сакратар Варшаўскага аддзела БГКТ — Віктар Швед дакладам аб дзесяцігадовай дзейнасці БГКТ у Варшаве. Пасля даклада пачаліся мастацкія выступленні.

З цікавай праграмай выступіў перад усім Варшаўскі руска-беларускі хор пад кіраўніцтвам Барыса Мулярчыка. Затым спявалі вядомыя на Беласточчыне са сваіх выступленняў у «Лявонісе» салісты: Ніна Свентахоўская, якая зараз спявае ў оперы Вялікага тэатра ў Варшаве, Люба Томчык і Аляксандр Каліноўскі, а таксама некалькі іншых асоб з таленавітай варшаўскай моладзі.

У час урачыстасцей найбольш заслужаныя дзеячы і актывісты Варшаўскага аддзела адзначаны былі дыпломамі прызнання. Сярод іх знайшліся: былы, шматгадовы старшыня аддзела — Юрка Туронак, Хведар Галёнка, Пятро Ластаўка, Янка Бобік, Янка Рубчэўскі і іншыя.

На падзяку ад Варшаўскага аддзела і ад усяго таварыства заслужылі ўстановы, якія дапамаглі ў наладжанні ўрачыстасці, а менавіта: кіраўніцтва Гарнізоннага дома жаўнера, якое і ў мінулым заўсёды гасцінна прымала таварыства ў сваё памяшканне, а таксама кіраўніцтва Вялікага тэатра, якое адпусціла на ўрачыстасць 10-годдзя двух сваіх працаўнікоў: успамянутую Ніну Свентахоўскую і спевака Аляксандра Жэланьца (п)



**Віктар Швед чытаў прысутным свой верш прысвечаны 10-годдзю таварыства...**

Фота Ул. Паўлючук

# ПРЫРУЧЫЎШЫ ПЕГАЗА

Паявіўся ў кнігарнях другі томік вершаў Аляксея Казберука п. з. «Агні на снезе». Томік надрукавала люблінскае выдавецтва.

У казберуковай творчасці наглядаецца безупыннае і паслядоўнае развіццё. Першыя вершы томіка «Агні на снезе» пераклікаюцца з вершамі томіка «Дзяцел». Тут гучыць яшчэ паэзія, якая чэрпае свае сокі з нашай роднай зямлі. Аж хочацца, каб Казберук пісаў на роднай мове, на мове, якая шмат бліжэйшая яго бацькам. Ён піша папольску. І так добра, бо піша добра. Унутраная філасофія яго паэзіі поўная энтузіязму і звычайна чалавечая. Ён прыглядаецца да працы простага селяніна — свайго бацькі, захапляецца прыродай, якая акружала яго ад дзяцінства — натхненне дае яму шэрая штодзённая праца, а калі піша пра ластаўкі, жаўранкі, зайцаў і нават пра лятучыя мышы, думае пра чалавека, пра яго лёс, пра яго змаганні з прыродай. Птушкі і звяры гэта толькі прыманка.

Гартаеш старонкі, перачытваеш вершы і пастунова паглыбляешся ў справах больш агульных і больш важкіх. Голас паэта мужнее, як голас хлапчука, якому пачынаюць сыпацца вусы. Ад захаплення прыродай, ад апісальніцтва Казберук пераходзіць да філасофскіх матываў дабра і зла, адказнасці чалавека перад чалавекам. Але адно надзвычай істотнае: паэт ніколі на першы план не ставіць сваёй асобы, а калі яе ўжывае, дык толькі ў сэнсе граматычным. У сучаснай паэзіі вельмі часта бывае зусім наадварот. Паэты апісваюць сябе і сваю непрыстасаванасць да свету, у якім жывуць. Вельмі цікава і пераканаўча Казберук піша аб рэвалюцыі, аб лёсе сваіх равеснікаў, непакоіць яго пагроза вайны, а калі пра каханне — дык адзываецца голасам сталага, разважнага чалавека.

Для выяўлення сваіх думак Казберук ужывае, як і раней, шырока зараз распаўсюджанай у свеце сучаснай формы вершапабудовы, якая не прызнае ні знакаў прыпынку, ні вялікіх літар, ні рыфмы, а механічны рытм замяняе, я б сказаў, рытмам сэнсу, выдзяляючы з агульнага плана слоў гэтыя словы, якія паэт лічыць асабліва важнымі і на іх кладзе націск.

У суме складаецца ўражанне, што Аляксей Казберук моцна расселся на хрыбце крылатага Пегаза.

**В. Рудчык**



**Аня Швед прадэкламавала верш таты «Коціку баліць жывоцік».**

# POETA ŚPIEWAJĄCEJ ZIEMI

Пад такім загалоўкам двутыднёвік «Nowe książki» (16 чэрвеня г. г.) змясціў рэцэнзію на зборнік вершаў Максіма Танка «На шляху дзікіх гусей», які, як мы ў свой час паведамлялі, выйшаў у перакладзе на польскую мову. Рэцэнзент Флёрыян Няўважны характарызуе творчасць Танка як адданае служэнне роднай зямлі. Адзначае сувязі Танка з рускімі і польскімі паэтамі. Звяртае ўвагу на аўтэнтычнасць пачуццяў у танкавай лірыцы. Між іншым, ён піша: «Простыя пачуцці, пераважна ясныя ў танацыі, пагодныя, сцвярджаючыя высакароднае жыццё, заўсёды даступныя чытачу, але хвалюючыя сваёй шчырасцю, выклікаюць прыхільнасць і сімпатыю, дазваляюць акунуцца ў чыстай плыні крынічнай паэзіі, якая шчодра б'е з унутра пявучай зямлі, якая, на жаль, так мала вядомая палякам». Рэцэнзент з прызнаннем вітае выхад танкавага зборніка ў Польшчы. Апрача рэцэнзіі, часопіс змяшчае таксама абшырную біяграфію беларускага паэта і яго партрэт.

(Ювэ)

## *ВЫСТАЎКА АБ «НІВЕ»*

*Як даведваемся, школа ў Курашаве ўшанавала дзесяцігоддзе «Нівы», і была зроблена выстаўка аб нашым беларускім часопісе. Гэта вельмі добра сведчыць аб замілаванасці да роднага сярод мясцовай моладзі. Цешымся! ся)*



 

# ВЯСЕЛЛЕ

Хачу расказаць, на колькі дазваляе на гэта мая памяць, як адбываўся шлюб у маёй роднай вёсцы Кнаразах. І так, малады хлапец задумаў жаніцца. Думаў ён і перадумоўваў, якую дзяўчыну ўзяць сабе за жонку. А калі ўжо надумаўся, ішоў да каго-небудзь са старэйшых жанатых мужчын і прасіў яго быць «маршалкам». Жанаты мужчына ахвотна згаджаўся: пахла тут гарэлкаю і багатымі пачастункамі.

**У вызначаны дзень жаніх і яго маршалак у таямніцы перад суседзямі выбіраліся да хаты дзяўчыны. Жаніх сядаў ля парога, а маршалак развіваў свае аратарскія здольнасці. Не адбылося без розных жартаў і пагаворак, як напрыклад: «Чулі мы, што ў вас ёсць прыгожая цялушка на продаж, а я прывёў добрага купца» і гд. Найважнейшай праблемай была справа пасагу. Пачынаўся сапраўдны гандаль. Калі гэтыя першыя крокі прадказвалі поспех у наладжанні вяселля, тады запрашалі бацькоў жаніха, і пачыналася доўгая п'янка.**

**У апошні чацвер перад вяселлем маладая са старшай дружкай і малады са сваім дружбантам адпраўляліся ў Бельск. Куплялі тут водку, каралі і розную іншую дробязь, потым у карчме рабілі большую чарку і вярталіся дамоў.**

**У пятніцу вечарам маладая са старшай дружкай абыходзіла ўсю вёску ад хаты да хаты і запрашала на вяселле. Маладая кланялася прытым усім аж да зямлі.**

**У суботу вечарам запрашалася «каравайніц», якія мясілі цеста, пяклі пірагі і «гускі», спяваючы прытым увесь час. Хлопцы — падросткі спрытна выцягвалі з печы «гускі». Не аднаму даставалася дзягаю па плячах, але за такую пакражу не было ні граху, ні суда. Гэта быў звычай.**

**Потым прыязджаў да маладой малады са сваім старшым дружбантам і маршалкам быццам бы па вянок і кашулю падрыхтаваную яму маладою. У сапраўднасці аднак тут пачыналася ўжо вяселле, якое цягнулася да позняй ночы.**

**На другі дзень, у нядзелю, адбываўся шлюб. Перад ад'ездам у царкву бацька браў гаршчок аўса, абыходзіў тры разы вясельных і абсыпаў усіх — коні і людзей — аўсом. Пасля гэтага гаршчок ставіў перад коньмі і трэба было, каб коні перавярнулі гаршчок і высыпалі з яго авёс.**

**Усе вясельнікі былі адпаведна прыбраны, а асабліва маладыя, маршалак і старшыя дружбанты. Двух дружбантаў ехала побач маладога верхам на конях. З царквы ўсе вярталіся да хаты маладой, дзе весяліліся да позняй ночы.**



**На другі дзень старшы дружбант ехаў ад маладой да маладога з перазвой на куфры з развешанай на высокай тычцы чырвонай хусткай. За часоў санацыі ўлады забаранілі ездзіць перазве з чырвонай хусткай, тлумачачы, што нельга, бо гэта бальшавіцкі сцяг.**

**Калі малады прывозіў сваю жонку да хаты, жанчыны спявалі:**

*«Выносъ маті дежку,*
*Прывёз сын нявестку.*
*Ані скрыні, ні пэрыны,*
*Ані з іе господыні».*

**Маці выносіла пустую дзежку і ставіла яе каля воза. Маладая сходзіла з воза ступаючы нагою на дзежку. Потым віталася з маці і бацькам, увахозіла да хаты, развешвала свае найпрыгажэйшыя ручнікі, дарыла ўсіх рознымі падарункамі.**
**Вяселле прадаўжалася.**

**НЕСТАР ПЕРАВОЙ**
Бельск

НА УЛОННІ ПРЫРОДЫ



Агульнакраёвая музеальная канферэнцыя, аб якой мы ў свой час пісалі, адбілася голасна ў культурным жыцці Беласточчыны. Сёння здымкі з падарожжа вучоных — удзельнікаў канферэнцыі па Беласточчыне.

**Белавежа — Вучоныя ў Беларускім музеі. Вялікае зацікаўленне экспанатамі.**

**Белавежа — А як жа! Вучонае падсумаванне трохдзённай сесіі адбылося на ўлонні чароўнай прыроды пад зялёнай сцяной лесу. (вл)**

Фота В. Пашкоўскі

## Памятнікі старадаўнасці Беластока

Лета, канікулы, экскурсіі. Асабліва школы і асабліва гарцэры захочуць у гэты час лепш пазнаць свет вакол сябе. Падам назвы важнейшых памятнікаў старадаўнасці горада Беластока.

1) Палац Браніцкіх, званы Падляшскім Версалем (таму што падобны да Парыжскага) з XVI—XVIII ст. барокавы. У 1692—1726 г. г. быў перабудаваны раз, а потым ужо Ян К. Браніцкі таксама змяніў яго выгляд. У XIX ст. змяшчаўся тут Інстытут шляхетных дзяўчат. У 1920—1939 гадах палац быў сядзібай Ваяводскага Урада. Знішчаны ў 1944 годзе, адбудаваны ў 1946—1955 гг. Цяпер Медыцынская акадэмія.
2) Збраёўня — цяпер Ваяводскі архіў.
3) Масонская ложа — класіцызм — цяпер Ваяводская бібліятэка.
4) Даўняя бальніца з XVIII ст. — цяпер кіно «Тон».
5) Кляштар С. С. Міласэрнасці — цяпер Дом дзіцяці.
6) Старамейскі дом — цяпер рэстаран «Асторыя».
7) Ратуша з гадоў 1745—1761 — цяпер Акруговы музей.
9) Гасцінны палацык з другой паловы XVIII стаг. — цяпер Музей рэвалюцыйнага руху.
9) Палац Любамірскіх з пачатку XIX стаг. — стыль класічны — цяпер Сельскагаспадарчы тэхнікум.

Усе, акрамя двух, памятнікі Беластока збудаваныя ў стылі барока, які характарызуецца багаццем і дэкарацыйнасцю формы. (вл)

У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ

# ДУХ АНІНАЙ ХАТЫ

Ладзіцца дарога ад бельскай шашы ў Паўлы. Але яшчэ ў пяску грэзнуць колы.
Паўлы пасля жоўтай дарогі выдаюцца зялёным раем. Будынкі пахаваліся ў майскай зелені дрэў.
Ідучы паўлаўскай вуліцай лёгка дыхаць. У новы, толькі адкрыты магазін уносяць мужчыны тавары. Склеп прыгожы, хаты гаспадарскія чыстыя. Адна школа тут старая, цесная. У ёй і дзеці вучацца, у яе на тэлевізар і вёска прыходзіць, у ёй драмгурток на ўнесенай сцэне выступае.
**Аня Грыгарук** у сваёй прыгожай хаце мае бібліятэчны пункт. Яе хата як напаказ. Вялікі пакой, бы святліца, дыхае чысцінёй і жывымі колерамі. Высокі ложак з падбітымі падушкамі, ходнікі тканыя сваімі рукамі, гафты, вышыўкі Ані. Цэлы музей беларускага фальклору!
Сядзім на доўгай ад сцяны да сцяны — метраў 6, лаве. Бачу, як прыехаўшая пані з Варшавы прытаілася моўчкі. Ведаю, яна зачаравана — яна вялікі любіцель народнага. Тут, у гэтай спакойнай і па-беларуску чыстай хаце Ані знойдзеш жывы і практычны фальклор.
Аня босымі нагамі стаіць на ходніку. З кухні пахне свежым пшанічным хлебам, печ дыхае цяплом, увіхаецца працавітая мама, меладыйны шум размовы ўпадзе ў вуха. Заўтра ў Паўлах прыхадское свята — «одпуст». Кажам да Ані, што хіба яе хата найпрыгажэйшая. «О, не, ёсць харошчыя» — голас Ані высокі, звінячы, металічны.
Колькі мае чытачоў? 57. Ці многа чытаюць? Адна — Кацярына Валосюк ад пачатку года прачытала ўжо 12 кніжак.
Дзеці? З імі больш дачынення. Возьме кніжачку, за гадзіну прачытае, і прыходзіць па другую.
Ці многа работы? — пытае Аню пані з Варшавы. Чакаю, што скажа — так, пачнуцца скаргі на малую плату 150 зл. у месяц (ад пачатку года Аня не атрымала яшчэ і граша). Але Аня адказвае — «не». І ў гэтым «не» ўся яе шчырасць, непадкупная беларуская (беларусы нялёгка лгуць) душа.
З грамадскай бібліятэкі ў Рыбалах прыносіць і адносіць Аня прачытаныя кніжкі. У руках, раз на два тыдні.
Толькі пасыпаў дробны дождж. Абсеў пыл. Зялёнай вуліцай адыходзіць наш мілы праваднік — настаўніца мясцовай школы, жонка слаўнага паўлаўскага **Сяргея Філіпюка,** якога нам не ўдалося застаць, бо выехаў у Беласток.

**Вера Леўчук**

Сельская гаспадарка без таямніц

# ХІМІЯ НА ПАЛЯХ (1)

Сучасная сельская гаспадарка без мінеральных угнаенняў — гэта так, як мастак без рук. Цяжка ўявіць сабе высокі ўзровень гаспадаркі нават пры даволі вялікіх порцыях гною. Сёння лічыцца трэба з адваротнай сітуацыяй: хутчэй можна дабіцца лепшых ураджаяў без гною, чым без мінеральных угнаенняў.
Наша ваяводства не належыць да перадавых па выкарыстоўванню штучных угнаенняў. У мінулым годзе ў нас было выкарыстана каля 35 кг азоту, фосфару і калію (NPK) на гектар (у чыстым рэчыве), а ў гэтым сезоне — 45 кг/га. У 1970 годзе беластоцкія сяляне выкарыстаюць 110—115 кг NPK чыстага рэчыва на гектар, г. зн. у два разы больш, чым цяпер сярэднія нормы ў краіне. Вядома, ёсць раёны, дзе ўжо цяпер дасягнулі такога ўзроўню ўгнойвання. Апольскае, Познаньскае і Вроцлаўскае ваяводтсвы ўжо цяпер выкарыстоўваюць у сярэднім па 80—90 кг NPK на гектар. Праз пяць год яны яшчэ больш будуць выкарыстоўваць штучных угнаенняў. Мы не зраўняемся з імі, але дыспрапорцыя ў значнай меры выраўняецца.
Галандыя ўжо ў 1952/53 годзе дасягнула паказніка амаль 180 кг NPK. Цяпер выкарыстоўваецца значна больш 200 кг на гектар.
Ёсць раёны, дзе даецца да 450 кг чыстага рэчыва на гектар.
У Англіі выкарыстоўваецца ў сярэднім на гектар 178 кг азоту, 120 кг фосфару і 154 кг калію.
У Бельгіі — 203 кг NPK, у ФРГ — 160 кг, у Францыі — 58 кг, у Італіі яшчэ нядаўна было толькі 35 кг NPK на гектар.
Як бачым, выкарыстоўванне штучных угнаенняў у еўрапейскіх краінах вельмі няроўнае. Гэта залежыць ад узроўня развіцця хімічнай прамысловасці, традыцыі, сельскагаспадарчай культуры, запатрабавання на асноўныя сельскагаспадарчыя прадукты, становішча ў экспарце і імпарце. Галоўнай прычынай інтэнсіфікацыі прадукцыі пераважна з'яўляецца адмоўны баланс, напр. збожжавы. Гэтая з'ява наглядаецца і ў нас. Замест таго, каб штогод купляць за граніцай значную колькасць збожжа, дзяржава павялічвае прадукцыю ўгнаення і такім чынам дабіваецца сістэматычнага павышэння ўраджаяў.
Такая праграма ўжо рэалізуецца ў нас. У гэтай пяцігодцы мы павінны ліквідаваць дэфіцыт збожжа між іншымі і пры дапамозе інтэнсіўнага ўгнаення. Калі даб'емся 22 ц збожжа з гектара ў сярэднім па краіне, дэфіцыт будзе поўнасцю зліквідаваны. У нашым ваяводстве хопіць павялічыць ураджайнасць з гектара на 2 ц — і баланс будзе ўраўнаважаны. А гэта зусім рэальна, тым больш, што дзяржава павялічвае дастаўкі сродкаў вытворчасці, асабліва мінеральных угнаенняў.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# ПРЫКЛАД ПРАВІЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ

**(Працяг са стар. 1)**

шасцей, але разглядаліся яны праз пасобныя камісіі.
Намеснік старшыні ПВРН. Э. Шчэпаньскі адказваў на некалькі пастулатаў з галіны прамысловасці і сельскай гаспадаркі. «Так склалася, што ўся ўсходняя частка ваяводства ёсць у эканамічных адносінах найслабейшая. Гэтыя занядбанні паступова ліквідуем», — сказаў ён. Выключна навучальнымі былі выступленні міністра Зыгфрыда Шнэка і старшыні ПВРН Стэфана Жмійкі.
Міністр падкрэсліў дружнае сужыццё многанацыянальнага насельніцтва Беластоцкага ваяводства як асноўнае дасягненне. Вырашэнне нацыянальна-меншасных спраў на Беласточчыне можна ставіць як прыклад правільнай палітыкі для іншых частак ПНР. «Ёсць аднак шмат праблем, — гаварыў міністр, — якія патрабуюць разгледжання: хутчэйшае эканамічнае развіццё ўсходняй часткі ваяводства — нельга адрываць эканомікі ад іншых нацыянальных спраў, справы асветы і культуры. Нашае становішча такое, што ва ўсіх галінах жыцця гаспадарамі павінны быць рады нарадовыя і яны нясуць адказнасць за ўсе недахопы, а не нацыянальныя таварыствы. Апошнія павінны з радамі супрацоўнічаць, дапамагаць нам у рэалізацыі пачыnанняў сярод свайго насельніцтва. Школьныя падручнікі, народныя ўборы, рэпертуар, праводжаныя канферэнцыі, арганізаваныя экскурсіі для дзяцей і дарослых, падпіска «Нівы» ў святліцах пры фабрыках, клубакавярнях, дыскутаванае ўвядзенне падвойных надпісаў на дзяржаўных установах усходняй часткі ваяводства — усё павінна належаць да нас, а не да іх».
Старшыня Прэзідыўма ВРН С. Жмійка падкрэсліў, што салідарызуецца з пастулатамі міністра. Некаторыя праблемы пастаўленыя прадстаўнікамі нацыянальных таварыстваў у рэалізацыі будуць даволі цяжкімі, напрыклад, павелічэнне інвестыцыі для асяроддзяў, або правядзенне камасацыі зямель. Аднак будзем іх паступова рэалізаваць. На працягу некалькіх год сваёй працы Прэзідыум ВРН так глыбока не разгледжваў праблем нацыянальных меншасцей. Таму гэтае пасяджэнне было вельмі павучальным. На заканчэнне старшыня ПВРН забавязаў усіх кіраўнікоў і членаў камісіі да ўтрымлівання больш цесных кантактаў з нацыянальнымі таварыствамі.
Сакратары ГП Літоўскага і Беларускага таварыстваў падзякавалі за пастаўленне нацыянальных пытанняў на пасяджэнні Прэзідыума ВРН, запрашэнне іх на гэтае пасяджэнне і разгледжанне пастаўленых пастулатаў.

**Ул. Юзвюк**

ЦУДЫ НАШАГА ВЕКУ

# БАГАЦЦЕ ПІРАМІД І КАСМІЧНЫЯ ПРАМЕННІ

Егіпецкія піраміды лічацца адным з цудаў, якія стварыў чалавек. Яны, апрача забальсамаваных астаткаў памершых фараонаў, перахоўвалі вялікае багацце. Яно даўным-даўно, як магніт, цягнула да пірамід розных злодзеяў і аматараў лёгкай нажывы. Калі трапілі ў піраміды вучоныя, засталі толькі голыя каменныя сцены і разбітыя муміі. Але ўсё ж піраміды не перастаюць прыкоўваць да сябе ўвагі даследчыкаў далёкага мінулага ў гісторыі чалавецтва і яго культуры.

Вучоныя, прынамсі некаторыя, спадзяюцца знайсці яшчэ многа невядомых таямнічых ходаў, сховішчаў старажытнасці і магіл. Археолагі вырашылі шукаць таямніц егіпецкіх пірамід з дапамогай прышэльцаў з космасу. Не, не касманаўтаў і не жыхараў другіх планет. А звычайных **касмічных праменняў.** Яны ў кожную секунду з неймавернай хуткасцю, якая даходзіць да 300 000 метраў у секунду, бесперапынку «бамбяць» зямлю цэлымі хмарамі. Цяжкая да ўяўлення хуткасць і амаль ніякая (нулёвая) маса дазваляюць гэтым прышэльцам з космасу пранікаць глыбока ў зямлю. Адзін з відаў касмічных праменняў — нейтрына — свабодна нават прабівае нашу планету.
Як касмічныя промені змогуць дапамагчы вучоным у даследванні таямніц егіпецкіх пірамід?

Тэхнікі пабудавалі так разумныя апараты, якія дакладна рэгіструюць колькасць і сілу касмічнага праменявання. Зразумела тады, што чым менш перашкод на сваім шляху будуць сустракаць касмічныя промені, тым больш будзе іх і тым глыбей яны пранікнуць. Розныя ходы і сховішчы ў пірамідах — гэта для касмічных праменняў «пустое» месца, значыць яно не з'яўляецца перашкодай, якая «вылаўлівае» прышэльцаў з космасу. Хопіць тады адпаведна расставіць апараты для рэгістроўкі касмічнага праменявання і даўжэйшы час наглядаць за іх паказаннямі. Яны, штопраўда, не акрэсліваюць дакладна месца распалажэння фараонаўскіх скарбаў, але пакажуць вучоным, дзе трэба праводзіць пошукі ўжо традыцыйнымі спосабамі — пры дапамозе рыдлёўкі і лома.

**Нейтрына**



**АНТЫРАКЕТЫ**
**1 мая бачылі іх некаторыя ў тэлевізары на Чырвонай Плошчы ў Маскве. Новыя магутныя савецкія ракеты могуць знішчыць варожыя ракеты. Яны кіруюцца радыёлакацыйнай станцыяй ранняга выкрывання і нішчаць непрыяцеля на вялікай адлегласці. (вл)**

## Агародніна на экспарт

Экспартам агародніны і фруктаў займаецца ў нас прадпрыемства «Гортэкс». Высылае яно за мяжу амаль усе фрукты і агародніну. Але найбольш свежых трускалак. У гэтым сезоне «Гортэкс» хоча выслаць у Нямеччыну і Швецыю каля пяці тысяч тон свежых трускалак. Справа вельмі складаная, бо кожны ведае, што гэта тавар не трывалы і баіцца транспарту. Да гэтага часу трускалкі высылалі выключна самалётамі і аўтамашынамі. Цяпер паедуць яны спецыяльнымі цягнікамі. Адзін цягнік будзе адыходзіць з Радомя, а другі з Варшавы. Пасля дваццаці гадзін знойдуцца яны ў Берліне, а за 47 гадзін — у Штакгольме. Экспарт свежай агародніны вельмі аплаціцца, але ён залежыць ад капрысаў ураджаю. Таму «Гортэкс» штораз больш экспартуе кансервавых паўфабрыкатаў. Вось для прыкладу закансерваваная бульба, якую прадукуе адна з фабрык на Шлёнску. У некаторых краінах цэняць яе вышэй цукеркаў. (вр)

ДОБРА ВЕДАЦЬ

*Пончыкі і піражкі трэба смажыць у вялікай колькасці моцна нагрэтага тлушчу. Укінуўшы піражкі ў разагрэты тлушч, зменшыце агонь, каб цеста павялічылася ў аб'ёме і не засталася сырым усярэдзіне. (лів)*



УСЁ АБ ФІЛЬМЕ

## КУЛІСЫ АМЕРЫКАНСКІХ ВЫБАРАЎ

Самі амерыканцы зрабілі адважны фільм аб сваіх выбарах. Іх выбары — не толькі вясёлыя гульні і дэманстрацыі. У фільме «Той найлепшы» паказана бяздушная барацьба за ўладу. Спецыялісты назвалі гэты фільм палітычнай драмай. Гэта драма сумлення, якое часта вымушана паступаць супраць сябе.

Фільм пачынаецца паказам партрэтаў усіх амерыканскіх прэзідэнтаў ад Вашынгтона да Джонсана. Перад халодным, дэманстрацыйна выпраставаным Джонсанам бачым сімпатычны сілуэт Кенедзі.

Фільм «Той найлепшы» навязвае да апошніх выбараў у ЗША. Кантвел з фільму — гэта Галдуатэр, які прайграў з Джонсанам, бо яго ідэі адстрашылі нават большасць саміх амерыканцаў. Кантвел у сваёй выбарчай акцыі не перабірае ў сродках. Яго амаль фашысцкая праграма знаходзіць падтрымку ў многіх.

Яго праціўнік Расель — адукаваны ліберал са «школы» Кенедзі праігрывае. Уступае месца іншаму «таму найлепшаму» — чалавеку без праграмы. Калі памочнік Раселя гаворыць: навошта ты адступіў і даў месца чалавеку без твару, нулю, які нічога не абазначае, Расель адказвае: цяпер ён ужо многа абазначае, такія стаюцца прэзідэнтамі. (вл)

## СВОЕАСАБЛІВЫ ЗВЫЧАЙ

Сярод некаторых мексіканскіх індзейцаў адбываюцца арыгінальныя ўрачыстасці звязаныя з пэўным гатункам кактуса, які расце толькі ў штаце Сан Луіз. Гэта расліна мае ашаламляючы ўплыў на арганізм.

Да штата Сан Луіз далёка, каля паўтары тысячы кіламетраў. Штогод у месяцы верасні вялікая група мужчын выбіраецца пешшу ў гэты штат, каб прынесці адтуль дзівосную кактусападобную расліну. Вандруюць 43 дні.

Жонкі мужчын, якія рушылі ў гэту вандроўку, павінны праз увесь час захоўваць абсалютны цэлібат, не могуць хутка хадзіць ані мыцца. Калі нарэшце вярочаюцца гэтыя пілігрымы з запасам здабытых раслін, адбываецца ў індзейскай вёсцы вялікая ўрачыстасць. (а-ся)

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Вяртаемся ў лагер.**
**— Камандзір, памяняйся з ім на боты! — паказвае мне на афіцэра Лук'янаў.**
**Лейтэнант ростам з мяне, цёмна-русы, шчуплы. Мундзір на ім з іголкі, боты новыя, моцныя, не тое што мае. Скажы слова... Але гордасць не дазваляе. Іду і маўчу. Немец крочыць побач, зыркае на мяне, поўны вайсковай гатоўнасці выканаць любы мой загад. «Калі ты мяне ўзяў, дык чорт з табой, я твой!» — гавораць яго паводзіны. Успамінаю рашучасць, з якой яны перлі па просецы, упартасць, калі таргаваліся, не складалі зброі, іхнюю вернасць загаду і камандзіру. Што з афіцэрам рабіць? У такіх выпадках спярша дабываюць у палонных вайсковыя таямніцы. Трэба заняцца гэтым і мне. У лагеры загадваю ўсім заняць кругавую абарону, у сярэдзіну садзім палонных, прыстаўляем да іх два кулямёты. Клічу камісара, Міцьку:**

**— Хадзем, дапытаем лейтэнанта!**
**Партызаны якраз абшукваюць немцаў. На мосе валяюцца з арламі на вокладках «Зольдатэнбухі», нажы, вяровачкі, партманеты, патроны... У лысаватага, нібы соннага і невыразнага салдата разам з іншым хламам хлопцы вывалаклі мо з пятнаццаць брытваў — старых і новых, рускіх і нямецкіх. Уяўляю сабе гэтага плюгавага мярзотніка, які пасля бою лазіць па трупах, вытрасае кішэні. Лейтэнанту сорамна. Ды і астатнім немцам няёмка, яны гыркаюць на плюшкіна, стараюцца падкрэсліць, што нічога агульнага з ім не маюць.**

**— Пойдзем! — ківаю афіцэру.**
**Лейтэнант бялее, аднак устае, стараецца паказаць, што не баіцца.**
**— Ужо павядзеце? — пытаецца хтосьці ў мёртвай цішы.**
**— Рэзаць?**
**— Тады і нас!**
**— Не бойся, мы не фашысты!**
**Адыходзім у гушчар, сядаем на бервяно. Афіцэр стаіць, насцярожана чакае. Не разумею людзей, якія ў паводзінах з немцамі кіраваліся толькі пачуццём асабістай помсты. Няма ў мяне яе і да гэтага абяззброенага афіцэра. Акруцілі цябе, дубіна, зрабілі вінцікам пачварнай машыны! І вось, як бачыш, дакруціла яна цябе!..**
**— Сядайце! — добразычліва паказваю на мох.**
**Немец хвіліну топчацца, разгублена апускаецца, падкурчвае калені, сплятае на іх рукі. Памалу смялее.**

**Выяўляю падрабязнасці сустрэчы. Мы сутыкнуліся з батальёнам пяхоты. Да апошняга моманту ён трымаў за Юзафовам абарону, даваў магчымасць асноўным сілам адступаць. Часці адышлі, батальён зняўся з пазіцыі, пачаў прабірацца на захад. Калона падышла да лесу, ступіла на просеку. Обер-лейтэнант Люцэ адправіў упярод аддзяленне, тады пайшоў за ім з асноўнымі сіламі. Наш вартавы ўбачыў авангард без вінтовак і вырашыў, што немцы ідуць здавацца ў палон. А разведчыкі на хлапчука, які нырнуў у гушчар, не звярнулі ўвагі. Пакуль партызан бегаў у лагер, авангард мінуў небяспечнае месца і знік у напрамку Беластока. Асядлаўшы просеку, мы і не падазравалі, што ў нас за плячыма — узвод немцаў! Павярні авангард на выручку сваім, удар нам у спіны, што сталася б, з маім войскам?.. Мне на хвіліну аднімае мову. Расшпіляю пінжак, кашулю, стараюся роўна дыхаць, каб не выдаць хвалявання. Якое шчасце, што на вайне не апошнюю ролю іграе выпадковасць, а мо і вязенне!**
**— Як называецца ваша часць? — пытаюся ў лейтэнанта.**
**— 334.**
**— Нумар палка ці дывізіі?**
**— Батальёна, — лаканічна ўдакладняе афіцэр.**
**Няўпэўнена запісваю ў блакнот. Дзіва. У нас нумарацыя батальёнаў ідзе ад аднаго да чатырох, па іх колькасці ў палку. Выходзіць, у нямецкай арміі яны маюць самастойныя нумары, як у нас палкі, дывізіі? А мо і ў нас гэтак? Чорт, не ведаю элементарнай ісціны! Карціць спытацца ў немца. Афіцэр ведае шмат такога, чаго мне і не снілася. Ды не станеш жа браць у гітлераўца лекцыю граматы вайсковай справы! Маўчу і з заклапочанасцю разглядаю афіцэра. Навошта дурыць сябе пытаннямі, у якіх ні шыша не разумею? Дапытаюць цябе ў нашым штабе як трэба. Уздыхаю, хаваю блакнот.**
**— Слухайце, лейтэнант, — цікаўлюся. — скажыце нам шчыра, чаму вы ўчора так упарта супраціўляліся ля Юзафова?**
**Дагэтуль немец разумеў мяне з паўслова, адказваў хутка, лаканічна, з пачуццём уласнай годнасці. Цяпер жа ён не ўлавіў сэнсу маіх слоў. Глядзіць упарта і намагаецца зразумець, чаго хачу. Пытанне паўтараю.**
**— Быў такі загад!**
**— Я не пра гэта!.. Чырвоная Армія вас разграміла, войскі Гітлера развальваюцца, вы ж самі бачыце. Каму патрэбна ваша ўпартасць, трупы?**
**— А! — даходзіць да яго. — Гэта толькі мы трапілі ў палон! Вайна яшчэ не скончылася. Мы яе выйграем.**
**— Вы-ы вый-граеце?**
**— Безумоўна! — Немец стараецца мяне пераканаць: — Фюрэр яшчэ не пусціў у дзеянне сакрэтнай зброі. Чакае, пакуль наступіць канцэнтрацыя варожых армій, тады адразу зробіць усім капут! Сябры нецярпліва мяне штурхаюць:**
**— Што ён кажа?**
**— Перакладзі!**
**А я ўсё з недаўменнем гляджу на афіцэра. Гаворыць шчыра, нават узнёсла, — дакладна, як штандартфюрэр з пабітай галавой у Гута-Міхаліне. Вось табе і раз! А мне, дурню, здавалася, што з выхадам з лесу наступіць канец гэтай калатнечы. Будзе толькі перамена пазіцыі.**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Справа прыпынкаў

У Крушыняны прыходзіць і адсюль адыходзіць 5 аўтобусаў ПКС. Два на лініі Крушыняны — Крынкі — Супрасль — Беласток, а тры на лініі Крушыняны — Крынкі — Саколка. Для вёсак, у мінулым, як кажуць, «забітых дошкамі», адкрыўся свет. Трэба куды ехаць, выйдзеш у вызначаную гадзіну на прыпынак, сядзеш у аўтобус і едзеш. Але вось у размяшчэнні прыпынкаў крыецца прыкрасць, якая не дае жыхарам некаторых вёсак цешыцца з гэтага дабрадзейства і ўжо другі год псуе ім кроў.

Ад самага пачатку адкрыцця лініі ПКС Крушыняны — Саколка жыхары вёсак Азяраны Вялікія, Азяраны Малыя, Белагорцы і Ямашы дамагаюцца прыпынку на скрыжаванні дарог Крушыняны — Крынкі і каля млына А. Карпінскага. Радныя і солтысы гэтых вёсак на кожнай сесіі ГРН ставяць пастулаты сваіх сялян наконт гэтых прыпынкаў. Пастулаты радных запісваюцца ў пратаколы, і недзе ўсе гінуць без рэха. Праўда, прадстаўнікі з павета заўсёды цешылі радных, што такую дробязь, як змена прыстанкаў, урэгулююць, але зробяць гэта з новым раскладам язды. Надыйшоў і доўгажаданы новы расклад язды, які нічога ў расстаноўцы прыпынкаў не змяніў.

Сяляне вёсак Азяраны Малыя і Вялікія, Белагорцы і Ямашы былі заўсёды актыўнымі ў грамадскіх чынах, і калі пачулі, што трэба будаваць дарогу Крушыняны — Крынкі, каб мог пайсці аўтобус ПКС, працавалі ахвярна і служылі добрым прыкладам для другіх вёсак. Зараз катэгарычна адказваюцца ад дарожных чынаў.

Сваю інфармацыю кірую ў адрас тых, хто адказны за такія справы. Здаровы голас сялян, вышэй успамянутых вёсак, не можа далей заставацца «голасам у пустыні».

**К. Патэльскі**
Крушыняны

## Новая прадаўычыца

У Кнышэвічах (Сакольскі павет) вясковая крама заўсёды мела вельмі малы асартымент тавараў і прадуктаў. Апрача папяросаў і віна мала чаго было. Калі сяляне звярталі прадаўшчыцы ўвагу, што ў краме няма тавару, яна адказвала: — няма іх на складзе ў Шудзялаве. Жыхары вёскі ведалі, што гэта толькі «выкруткі» прадаўшчыцы. Ведалі, што яна занядбоўвае працу. Таму выбралі новую прадаўшчыцу. Завуць яе Галена Богус. І цяпер у кнышэвіцкай краме стала многа тавараў і прадуктаў. Ёсць зараз і хлеб, і кансервы, і булкі, і мука, і макароны, і шмат прамысловых тавараў. А найважнейшае тое, што Галена Богус сумленна важыць яйкі, якія з'яўляюцца асноўным даходам нашых жанчын.

**А. С.** Сакольскі павет

## Рыбалаўскія аблогі

— Рыбалаўскія аблогі можа зліквідаваць толькі арганізацыя ПГР, — кажуць некаторыя людзі. Зямля тут слабая і ніхто з гаспадароў за моцна не гоніцца за ёю...

Сапраўды, абшар зямельных угоддзяў пакінутых гаспадарак перавышае 500 гектараў. З таго штосьці каля 150 гектараў апрацоўваюць — і хіба будуць апрацоўваць — гаспадары, якія падпісваюць з ГРН адпаведныя дагаворы на карыстанне гэтымі землямі. Сельскагаспадарчы гурток у Паўлах у мінулым годзе апрацоўваў на падставе такога дагавору 69 гектараў зямлі.

Агульны абшар ворнай зямлі на тэрыторыі рыбалаўскай грамадскай рады складае 4 793 гектары. У супастаўленні з гэтай лічбай бачым, што аблогаў тут шмат. Магчыма, што апрача эвентуальнага ПГР-у прыдалося б правесці тут звычайную пасадку лесу на слабых землях. (ся)

## Пасадзілі лес

Некаторыя сяляне Тарнопаля (Гайнаўскі павет) вясною засадзілі лес. Вось, напрыклад, Алёша Васько, Уладзімір Лаўрашук і Сцяпан Байко на вызначаных праз лесніка хмызняках выцялі ўсе кусты і дрэвы, ачысцілі з галля і засадзілі на тым месцы звыш двух гектараў лесу. Яны не пускаюць на пасадку кораў, якія аб'ядаюць маладзенькія вяршкі сасны.

**Янэк Бура**
Тарнопаль

## Школьны спорт

Адна з вельмі важных галін школьнай працы — фізкультура. Як зрабіць, каб распаўсюдзіць спорт, зрабіць яго масавым на вёсцы? Для гэтага не хапае толькі добрая воля настаўніка на ўроках. Трэба ўмець паказаць яго асяроддзю. Але каб гэта здзейсніць, не трэба чакаць на спаборніцтвы ў павеце. Напрыклад, настаўнікі Навакорніна, Курашава, Чыжоў, Койлаў і Лянева пастанавілі сарганізаваць міжшкольныя спартыўныя спаборніцтвы.

Бацькоўскія камітэты прышлі з выдатнай дапамогай арганізатарам, «фундуючы» ўдзельнікам спаборніцтва: кубак, дыпломы і ўзнагароды. У часе спаборніцтваў сабралася многа бацькоў. Нармальная справа, кожны хацеў пабачыць «як мой б'е, а як твой».

Такая форма арганізацыі спорту вельмі старая, але надта актуальная. (ак)

## Папраўка да „Крушынянскіх нарадзін"

У маім артыкуле я зрабіла дзве памылкі, за якія сардэчна крушынянцаў перапрашаю.

На змешчаным здымку з «Ботаў» былі К. Макаль і Б. Эйсмант. Не было там Кірыла Авечкі.

Таксама Раман Талькоўскі ніколі не быў настаўнікам. Дзякую за інтэрвенцыю К. Патэльскаму.

**Вера Леўчук**



**У святочны дзень у Луце (Гайнаўшчына) на лавачках заўсёды можна ўбачыць бабуль, якія размаўляюць аб сваім жыцці-быцці.**

## Наш солтыс

Аляксандр Трахімчук ужо 10 год працуе солтысам. Салэцтва яго складаецца з вёскі Лукі і суседняй — Слабодкі. Ён добра выконвае давераныя яму абавязкі. У час збірае падаткі ад сялян, клапоціцца, каб прыгажэла вёска.

Апошнім часам у Луцэ ўложаныя ходнікі на вуліцы. Аляксандр Трахімчук намагаецца таксама, каб супольную пашу над рэчкай Нарвай загаспадараваць так, каб была яна ўраджайная. Добрай рысай нашага солтыса з'яўляецца, між іншым, і тое, што да людзей ён адносіцца вельмі ветліва.

**Мікола Сухадола**
Слабодка

## Прыемны візіт

5 чэрвеня ў Дубічах Царкоўных выступаў калектыў Украінскага грамадска-культурнага таварыства з Кляшчэль. У праграме яго была сцэнічная драма п. з. «Бесталанная». Выступленне працягвалася дзве гадзіны.

Трэба адзначыць, што калектыў з Кляшчэляў яшчэ малады, бо існуе толькі ад снежня 1965 года (няцэлы год). Складаецца з 30-ці чалавек. У склад яго апрача маладых самадзейнікаў уваходзяць і старэйшыя, якія маюць па 50—60 год. Кіраўніком драмгуртка з'яўляецца Слаўко Місеюк — энергічны і таленавіты чалавек.

22 мая калектыў выступаў у горадзе Венгажэве на ваяводскім аглядзе УГКТ. Там заняў ён першае месца і быў закваліфікаваны на цэнтральны агляд у горад Пшэмысль.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## На працягу X стагоддзяў Польшчы

Пад патранатам Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народу аб'яўлена агульнапольскі краязнаўча-турыстычны конкурс пад загалоўкам «На працягу X стагоддзяў Польшчы».

Тэмай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя турыстыкі, пазнаванне гістарычнага мінулага нашай краіны, адкрыванне новых турыстычных шляхоў і арганізаванне адпачынку людзям працы. Удзел у гэтым конкурсе могуць браць прамысловыя прадпрыемствы вёскі, школы, гурткі ўсіх арганізацый і нават індывідуальныя групы, якія складаюцца не менш як з трох асоб. Для ўдзельнікаў конкурсу будуць прызначаны высокія грашовыя ўзнагароды. Найвышэйшая грашовая ўзнагарода — 200 тыс. зл., а найніжэйшая — 10 тыс. зл. Прадбачана таксама шмат рэчавых узнагарод для дзеячаў турыстыкі і арганізатараў экскурсій. Думаю, што ў конкурсе «На працягу X стагоддзяў Польшчы» павінны прыняць масавы ўдзел гурткі БГКТ.

Дакладныя даныя аб конкурсе знайсці можна ў брашуры „Przez X wieków Polski".

**С. Філіпюк**
вёска Паўлы

# Сардэчныя тайны

**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Маю 16 год. Жыву ў вёсцы. Наша вёска вялікая, многа хлопцаў і дзяўчат. Пакахаў мяне хлапец з нашай вёскі. Я яго таксама пакахала. Гаварыла я яму, што ніколі яго не пакіну, што верна яго кахаю. Ён таксама мне прысягаў, што ніколі мяне не пакіне. І вось якая спаткала мяне бяда. Аднойчы пазнаёмілася я з хлопцам з суседняй вёскі. Ён таксама мне гаварыў, што кахае, аднак я яму нічога не гаварыла. Аб гэтым даведаўся мой нарачоны з маёй вёскі і вельмі на мяне пагневаўся. Усяляк яму нагаварылі мае сяброўкі, таму што яны не маюць сваіх хлопцаў. А гэта ўсё няпраўда, бо В. ніколі мяне не адводзіў дамоў і я з ім так часта не сустракалася. Цяпер мой нарачоны не хоча зусім на мяне глядзець, сказаў мне, што я яго пакінула для другога.

Парай Сэрцайка, што далей рабіць, каб кахаў мяне далей, я не хачу нікога іншага. За параду буду табе ўдзячна.

**Ніна**
з Гайнаўскага павета

Дарагая Ніна!

Не раю табе доўга смуціцца, бо гэта не мае ніякага сэнсу, сама аб гэтым пасля нейкага часу пераканаешся. Мо ты і яму падабаешся (значыць гэтаму са сваёй вёскі), аднак не варта ўжо аж так прысягаць, бо напэўна яшчэ гэтае самае паўторыцца. У тваіх гадах не можна яшчэ лічыць на сапраўднае каханне. Зрэшты, яно вам яшчэ і не патрэбнае. Вашыя гады — гэта вясёлыя вечарынкі, песні, танцы, многа радасці і смеху. А на каханне таксама прыйдзе час, яшчэ трохі пачакай. Тады і смутак прыйдзе і клопат. Таму раю табе, Ніна, не заварочваць галавы гэтымі справамі, раю ўсіх гэтых хлопцаў лічыць сябрамі, і паводзіць сябе так, як бы нічога і не было. А ў прысягі дык не раю верыць нават і старэйшым хлопцам. Жадаю ўсяго добрага.

**Сэрцайка**

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — ў Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 480 | 380 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,60 | 1,50 | 1,40 |
| масла | кг | 60 | 50 | 60 |
| ялавічына | кг | — | — | — |
| свініна | кг | 40 | 38 | 36 |
| сала | кг | 34 | — | 34 |
| бульба | цэнт. | 140 | 75 | 70 |
| буль. маладая | кг | 5 | 4,50 | 6 |
| цыбуля | кг | — | 6 | — |
| капуста | кг | 3 | 7 | 3 |
| морква | кг | — | 6 | — |
| буракі | кг | — | 6 | — |

# КІНО

**Праграма на 12—17. VII. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„12 milionów holendrów" (holenderski), 12—13. „Jo-jo" (francuski). 14—15. „Zawsze w niedzielę" (polski), 16—17.

**Кляшчэлі**
„Wiosna we wrześniu" (czeski), 12—13. „Siódmy przysięgły" (franc.), 14—15. „Salto" (polski), 16—17.

**Нарва**
„Ostatni lot" (radz.), „Winda towarowa" (franc.), 13—17.

**Нараўка**
„Droga przez cmentarz" (radziecki), „Dwója z wychowania" (radz.), 13—17.

**Чыжы**
„Opowieść znad Donu" (radz.), „Człowiek, który stchórzył" (czeski), 13—17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Czarne i białe" (USA), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 13—17.

**Орля**
„Pingwin" (polski), „Człowiek z przeszłością" (radz.), 13—17.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Premiera odwołana" (NRD), „Wielki skok" (franc.), 13—17.

**Міхалова**
„Operacja Y" (radz.), 12—13. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 14—15. „Miłość blondynki" (czeski), 16—17.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Spotkanie na przeprawie" (radz.), 12—13. „Sąd" (radz.). 14—15. „Lęk" (czeski), 16—17.

**Мілейчыцы**
„Tanganica" (radz.), 12—13. „Pożegnania" (polski). 14—15. „Siódmy przysięgły" (franc.), 16—17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 12—13. „Ruda Julka" (franc.), 14—15. „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 16—17.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Dramat w Kosmosie" (radz.), „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (angl.), 16—17.

**Тэатр імя А. Вянгеркі** (выязная група)

**Сямяцічы**
„Rozwiedźmy się" — 13.VII.

**Нурэц**
Rozwiedźmy się" — 15.VII.


# НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Błtk D-3



# БІГ — БІТ

Ванька мой вучыцца ў важнай варшаўскай школе. І вось прыехаў на канікулы. Паглядзеў я на яго, і аж сэрца забалела. Засушаныя нейкі, брудны, валасы аж за каўнерам вісяць, раскудлачаны.

— Божа мой! — гавару. — Што яны там з цябе зрабілі! Маеш, сыночак, «дзесятку», пайдзі да нашага Андрэя, ён хаця авечымі ножнамі цябе падстрыжэ, каб людзям не сорамна было паказацца.

— Не прымушай, татку, — гаворыць Ванька. — Госці да мяне заўтра прыедуць, смяяцца будуць. І сапраўды прыехалі: дзве беднаватыя паненкі, якім не хапіла грошай нават на вопратку, бо хадзілі ў кароценькіх яшчэ дзіцячых суконках і трох хлапцоў — таксама аброслых, як мой Ванька. Жонка злітавалася над імі, ачысціла камору і адзін пакойчык, нарыхтавала белую пасцель, але яны заявілі, што свіначага смуроду нюхаць не маюць намеру і мух карміць таксама не будуць. Уладзіліся ў лесе. Толькі есці прыходзілі дахаты.

Дзеці, якія збягаліся туды з цэлай вёскі, апавядалі дзівы неймаверныя, але я ў гэтае не веру. Мой Ванька — мая кроў і характар. Ён дурнога тварыць не будзе!

Тыдзень часу прайшоў спакойна. Папрасіў я іх, каб памаглі мне пры працы, бо жонка абеды рыхтаваць мусіць, у поле ісці не можа.

— Мы таксама не можам, — сказаў Ванька. — Мы канцэрт рыхтуем.

Што ж, хай будзе, моладзь мае сваё. І сапраўды незадоўга дзетвара развесіла на платах вялікія афішы, якія заклікалі на канцэрт. Вельмі цікавіліся мы гэтым канцэртам, а найбольш я, бо ж мой Ванька яго рыхтаваў. І ўсё было б добра, але сталася няшчасце. Хіба хтосьці заўрочыў. Калі толькі Ванькавы госці паявіліся на сцэне нашай новенькай святліцы, адразу пачало іх трасці, як у ліхаманцы, як электрычнасцю. Ужо пападалі, па падлозе качаюцца, вопратку на сабе разрываюць. А крычаць бедныя, а выюць! Душа балела слухаць, немагчыма было глядзець. Старая Матрона свянцонай вадой пачала ўжо крапіць, але без выніку. Тады пазванілі мы за хуткай дапамогай. Лекар паглядзеў, пастукаў пальцам у свой лоб і кажа:

— «Біг-біт», — ды адправіўся, бяздушны, назад у горад.

— Маўчы, не паўтарай, — прыказваю жонцы, — каб людзі не даведаліся пра гэтую страшную хваробу сына. Мы яго заўтра ў Варшаву да спецыялістаў адправім.

Але на шчасце нячыстая сіла хутка адпусціла нашых хлапцоў, і яны самі сашлі са сцэны. Прышлося толькі грошы вярнуць за білецікі, бо людзі сказалі, што канцэрт не адбыўся. А надабавак з хуткай дапамогі прыслалі рахунак на 200 злотых. І ўсё па прычыне гэтага «біг-біту».

**Якуб Асака**



— Дык вось хто мой пра-пра-пра-прадзядуля...

— І хто прыдумаў гэтыя натуральныя перашкоды?! Зараз яны яшчэ захочуць піць!

## ХІБА ГЭТА СНЕГ?

Адзін выдумшчык хацеў здзівіць другога:

— У нашым сяле быў такі густы снегапад, што куры, узлезшы на гурбы снегу, дзяўблі зоркі.

Другі выдумшчык засмяяўся:

— Э, дружа, хіба гэта снегапад! У нашым сяле такое называюць — іней.

## ЯКІ БАЦЬКА...

Прыйшоў гаспадар у свой сад. Глядзіць, а на яблыні суседскі хлапец сядзіць і яблыкі абрывае.

— А то ты, валацуга, абрываеш у маім садзе яблыкі! Ану, злазь, пойдзем да твайго таты. Я яму пакажу, якога ён сына выхаваў.

А хлапец яму:

— Ціха, дзядзька, каб тата не пачулі. Яны вунь на той яблыні сядзяць.

## ДАРОСЛЫ І МАЛЫ

**Да Хамы звярнуўся Коля:**
**— Дай мне, дзядзька, закурыць.**
**— Ну, і вучаць вас у школе! —**
**Трэба «дайце», гаварыць.**

**Р. ЗАЙЦАЎ**

## БЯГУН

Малады Янка прычапіўся недзе да аднае дзяўчыны. Дзяўчыне гэта надакучыла, і яна сказала:

— Спыніце, а той мой брат пакажа вам... ён першаразрадны быксёр.

— Нічога, — адказаў Янка, — і ў мяне таксама першы разрад... па бегу.

## У РЭДАКЦЫІ

Адзін чалавек прынёс у рэдакцыю артыкул, у якім ушчэнт быў раскрытыкаваны кіраўнік аднаго прадпрыемства.

— А ў вас ёсць факты, якія пацвердзілі б усё гэта? Як вы пацвердзіце факт хабарніцтва?

Чалавек, які прынёс артыкул, збянтэжыўся.

— У мяне ў руках фактаў няма, але прыблізна так павінна быць.

Рэдактар падумаў, а пасля сказаў:

— Вы паклёпнік!

Чалавек, што прынёс артыкул, узлаваўся.

— Як вы пацвердзіце гэта! Ёсць у вас факты?

— У мяне ў руках няма такіх фактаў, — сказаў рэдактар, — але прыблізна так павінна быць.

## СВОЙ ПУНКТ ПОГЛЯДУ

Гэта было даўно. Адзін селянін упершыню трапіў у горад. Убачыўшы на паліцэйскім шапку з рэменем, што абвіваў твар, селянін нясмела спытаў:

— Скажыце, паночку, навошта гэта ў вас вуздэчка? — і апісаў пальцам наўкола барады паўкруг.

— Па форме так належыцца, дурань неацесаны! — гаркнуў паліцэйскі.

Селянін агледзеў, кіўнуў галавою і хацеў было ісці.

— Пастой! — крыкнуў паліцэйскі. — А што ты думаў, калі задаваў пытанне?

— А я думаў, паночку, то для таго, каб вы рота не раззяўлялі, а то, бач, як гарлапаніце.



Усё людское нам не чужое.

## НЕ З ТЫХ

— Вы зноў мінулагодняя дасягненні падаеце, як сёлеташнія?

— А я не з тых, якія гавораць сёння адно, а заўтра іншае.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Па просьбе Марыі Ракіцкай з Дзянісак, Бельскага павета, змяшчаем песню п. з.**

# „DLA CIEBIE MAMO”

Moderato

Ma - mo - -, smu-tno tu i o - bco - -, drze-wa in-ne ro - sną i ci - szy nikt nie zna tu.
Ma - mo - -, nie myśl że się skar - żę - -, brak mi tyl-ko ma - rzeń i da-wnych snów -, mo - ich snów.
Wi-dzę znów nasz dom cie - bie ma - mo w nim -, wspo - mi-nam sta-ry klon cie - mny i wy - so - ki jak dym -.
Wi-dzę znów nasz dom cie - bie ma - mo w nim -, wspo - mi-nam sta-ry klon cie - mny i wy - so - ki jak dym -.
Ma - mo - -, wo - łam two - je i - mię - -, zno-wu je - steś przy mnie jak za da-wnych lat -.
Ma - mo - -, w ser - cu cię ko - ły - szę - -, list do cie - bie pi - szę cie-mny jak ta noc -. To nie pra-wda ma - mo, ju - tro wy-ślę in-ny list. Jest do-brze, ma-mo, tak jak miało być, a ty ma-mo śpij - -, jeszcze noc dobrze śpij -, o! Ma - mo - - - -....

Sztych. J. Rynczak